Год II. Серада 15 сакавіка 1922 г. № 3.

# РОДНАЯ СТРАХА

АДРЕС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вул. Міцкевіча (Георгіеускі) 33, кв. 4. Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят ад 10 да 12.

Цана нумару 20 марок. Падпіска на 1 месяц 80 м., на 3 месяцы 240 мар.

ЦАНА АБВЕСТАК: За 1 радок 1 стр.—30 мар. На апошняй—15. Для шукаючых працы на 25 проц. таней.

## Наша справа.

Хто хаця троху прыглядаўся да жыцьця беларускага грамадзянства, той добра ведае, што найбольш балючай справай для беларусоў, ёсьць справа беларускай школы. Можна сьмела сказаць, што тыя ці іншыя адносіны беларусоў да прадстаўнікоў розных уладаў, якія гэтак часта меняюцца ў апошнія годы на нашай бацькаўшчыне, заўсягды выплывалі з аднаго і таго самага асноўнага пункту: як гэная улада глядзіць на справу беларускай школы. Калі яна давала гарантыі поўнага развіцьця беларускай народнай прасьветы, — адносіны гэныя былі прыхільнымі, і калі ў асобе яе, беларускае грамадзянства спатыкала ворагаў беларускай школы, адносіны гэныя рабіліся няпрыхільнымі і навет варожымі.

Соцыяльныя і палітычныя моманты для характару гэных адносін мелі, бязумоўна, толькі другародная значэньне і сьмела можна сказаць, што тыя беларускія палітыкі, якія хацелі-б высунуць іх на першы плян, ня мелі-б послуху ў беларускага грамадзянства.

Рэчпаспалітая Польская, ў межах каторай жыве значны лік беларусоў, заселяючы усходнія абшары Польскай дзяржавы, больш чым хто іншы, мусіць быць зацікаўлена ў тым, каб гэныя адносіны былі як найлепшыя.

Аб устанаўленьні гэных добрых адносін думае наступавая частка польскага грамадзянства, думаюць адказныя кіраўнікі палітычнага дзяржаўнага жыцьця Польшчы.

Аднак, калі прыходзіцца, ў штодзённым жыцьці спатыкацца з рэалізацыяй гэных думак, дык бачым мы, нейкае хістаньне, нейкую няпэўнасьць, і намімаволі атрымліваецца ўражаньне, што галасы паноў Обстаў і кампаніі, якія громка крычаць, то аб беларускай фікцыі, то аб поўным неістнаваньні беларусоў, то зноў, блутаючыся ў сваіх довадах, пачынаюць гаварыць аб небяспецы ўвядзеньня беларускай мовы ў касьцёлах, — што гэны гістэрычны крык польскіх шовіністаў, не нрападае дарма, але наадварот, да яго пільна прыслухоўваюцца і на ім твораць фундамэнт разьвязкі беларускага пытаньня...

Толькі ў атмосфэры тых хворых праяваў польскага жыцьця, маючых крыніцу сваю ў самым Варшаўскім Сойме, ў каторым антыдзяржаўныя шовіністычныя кругі, прыкрываючыся патрыятычнымі лёзунгамі, вядуць з польскім народам заядлую барацьбу за свае клясовыя абшарніцкія інтэрасы, толькі ў гэткіх варунках, голас паноў Обстаў можа мець послух. Бо запраўды, трэба быць глухім і сьляпым, каб паважна слухаць, поўныя чалавеканенавідзтва байкі пана Обста.

Мы не належым да тых беларусоў, якія іншы раз неправільна ацэнваюць размах і сучаснае значэньне адраджанчэскага беларускага руху; мы ведаем што ў сучасны момант ён не дарос да стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы, але гледзячы ў наша агульнае жыцьцё, і пагледаючы ў прошласьць нашу, мы ведаем, таксама, што няма тэй сілы на сьвеце, якая-б магла спыніць абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу, які ў найцяжэйшыя хвіліны свайго істнаваньня, у часы горкай маскоўскай няволі, калі кожная праява нацыянальнага жыцьця спынялася ў корані,—ня толькі патрапіў процістаяць русыфікацыі, але прахаваўшы мову сваю, пашырыў межы яе на заходзе, захопліваючы крок за крокам літоўскія вёскі.

І барацьбу гэтую вёў народ адзін, цёмны, бяз сьвету навукі, пакінуты сам сабе, без свае інтэлігэнцыі, ў працягу амаль не паўтараста гадоў і захаваў свае нацыянальнае я ня ў імя якіх небудзь лёзунгаў, а проста аднэй сілай сваей нацыянальнай жывучасьці, працістаўляючы у працягу доўгіх гадоў, варажым актыўным сілам толькі сілу сваей інэрцыі.

Гэта было калісь, яшчэ да тэй хвіліны, калі пасьля доўгай зімы у нашы родныя вёскі прыляцела першая ластаўка нацыянальнай беларускай вясны.

За ёю прыйшла кніжка на роднай мове, зьявілася беларуская інтэлігэнцыя. Нацыянальная сьвядомасьць расла з дня ў дзень, ажно дачакалася першай беларускай школы, першых дзетак, на долю якіх выпала вялікае шчасьце пазнаць сьвет навукі ў роднай мове сваей, пеяць свае родныя песьні, ў якіх гаворыцца аб няперашнай нядолі яго і рысуецца сьветлая будучыня паўстаўшага народу.

Хто знае душу дзіцяці, той павінен ведаць, што гэных думак навеяных у чуткія душы, не разьвее ніякая жыцьцёвая бура. Зерня кінутае, расьце і разьвіваецца, каб узыйсьці буйным коласам. Іх, гэтых дзетак, цяпер тысячы. Гэтыя „фікцыі", як іх называе пан Обст, пішуць яшчэ няўмелай дзіцячай рукою да нас дзесяткі лістоў, просячы аб прысылцы газэтаў, чакаючы, калі прачнецца іх бацькаўшчына „дарагая Беларусь". Лісты гэныя





дышуць патрыятызмам да „дарагой Бацькаўшчыны“.

Ці пры гэткіх варунках можна паважна казаць аб беларускай фікцыі, калі беларуская нацыянальная сьвядомасьць ня толькі пашыраецца з дня на дзень, але мае трывалы, моцны фундамэнт для свайго далейшага разьвіцьця?

Прад польскім грамадзянствам толькі дзьве дарогі: альбо адкрытая бясслаўная барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць з беларускім нацыянальным адраджэньнем, барацьба без надзеі на пабеду,— альба сьветлы шлях стварэньня варункаў вольнага развіцьця нацыянальнай беларускай сьвядомасьці.

Мы прakананы, што канцы-канцамі Польшча пойдзе шляхам, паказаным вялікімі традыцыямі Польскага народу; мы прakананы, што прайшоўшы цярністы шлях нявол і нацыянальнай паняверкі, і здабыўшы зноў незалежнае існаваньне, польскі народ зможа і сваіх унутраных ворагаў, раз'ядаючых яго малады дзяржаўны арганізм і, не як гаспадар з нявольнікам, не як вораг з ворагам, але як роўны з роўным пойдзе ў сьветлую будучыну разам з іншымі народамі, якіх лёс гісторыі кінуў ў дзяржаўныя межы Рэчыпаспалітай Польскай.

Першы этап па гэным шляху, гэта шчырае і яснае вырашэньне справы беларускай школы. І пакуль гэтага ня будзе зроблена, пакуль існаваньне беларускай школы будзе разглядацца, як акт ласкі, альбо ўступкі, а не як забясьпечанага законам права беларуса—да таго часу ўсе надзеі ўцягнуць беларускі народ, як элемент творчы, ў орбіту дзяржаўнага жыцьця Рэчыпаспалітай Польскай—будуць дарэмны.

Аб гэтым павінны ведаць адказныя кіраўнікі дзяржаўнага жыцьця Польшчы.

**С—с.**

# Злучэньне Віленшчыны з Рэчпаспалітай Польскай.

У прошлым нумары „Роднае Страхі“ мы пісалі ўжо, якое здарэньне выйшла з подпісам акту злучэньня Віленшчыны з Польшчай.

Тады мы выказвалі надзею, што разам з прыездам да Варшавы ўсяго Віленскага Сойму дэлегацыя Віленскага Сойму атрымае ад яго патрэбныя дырэктывы і справа подпісу акту, такім чынам, парушыцца з мейсца.

Аднак надзеі нашы не спраўдзіліся, —і на акце гэным дагэтуль ляжаць подпісы ўсіх міністраў Рэчпаспалітай Польскай і толькі дзесяць подпісаў з дваццаці паўнамочных прадстаўнікоў Віленскага Сойму, і дзеля гэтага справа злучэньня Віленшчыны з Польшчай, з фармальнага боку, вісіць у паветры.

Ня будзем апісываць усяго таго, што рабілася у Варшаве, ў зьвязку з гэным здарэньнем. Скажам толькі, спаткаўшы зусім неспадзеванае упорства з боку паловы прадстаўнікоў Віленскага Сойму і ня маючы дзеля таго магчымасьці прылучыць Віленшчыну да Польшчы на асновах, згодных з дзяржаўнымі інтэрасамі, увесь урад Польшчы, з панам Панікоўскім на чале, падаўся ў адстаўку.

Некалькі дзён Варшаўскі Сойм радзіў аб тым, каму даручыць сфармаваньне новага ўраду і вырашыў, што справу гэную трэба даручыць зноў таму-ж самаму п. Панікоўскаму.

Такім чынам, даручаючы сфармаваньнэ новага ураду п. Панікоўскаму, Сойм Варшаўскі у справе Віленшчыны стаў зусім выразна на яго старану і тым самым падкрэсьліў, што ня толькі пан Панікоўскі і яго ўрад, але і аграмадная большасьць Варшаўскага Сойму разумее, што палітычныя варункі так зλажыліся, што Віленшчыну проста „ўцяліць“ да Польшчы, зрабіўшы яе толькі ваеводзтвам—нельга, і што можа быць гутарка толькі аб злучэньні на спецыяльных варунках.

Формы далейшае сувязі Віленшчыны з Польшчай маюць быць ясна акрэсьлены ў „Статуце Зямлі Віленскай“, які зацьвердзіць Варшаўскі Сойм. Праект гэнага статуту, апрацаваны ўжо бышым урадам, мае ўсе прыкмэты аўтаноміі.

Чым скончыцца гэная справа сказаць трудна. Вядома, Варшаўскі Сойм, перш чым даручыць п. Панікоўскаму фармаваньне новага ўраду, шмат гаварыў з ім аб вырашэньні справы з подпісам акту, і п. Панікоўскі сказаў, што ніякага іншага спосабу няма, як толькі адзін, каб і рэшта, дзесяць прадстаўнікоў Віленскага Сойму, падпісалі гэны акт. Тым часам, Віленскі Сойм, не дачакаўшыся подпісу акту, вярнуўся з Варшавы да Вільні, за ім прыехалі і 10 паўнамоцнікаў падпісаўшых акт, а трошку пачакаўшы, пакінулі Варшаву і 10 паўнамоцнікаў, непадпісаўшых гэтага акту, якія мелі надзею, што новы ўрад будзе іншым і згодзіцца зьмяніць зьмест акту злучэньня.

Што цяперака робіцца ў Віленскім Сойме— няведама, ніякіх вестак няма. Хаця здавалася-б, што, хто як хто, але Віленскі Сойм першы мусіў бы падумаць аб тым, як разхлёбаць кашу, завараную яго паўнамоцнымі прадстаўнікамі ў Варшаве.

А каша гэная ня вельмі смачная.

Не кажучы ўжо аб браку павагі, які носіць уся гісторыя з падпісаньнем гэнага акту, стварылася ўражэньне, якое не магло абыйсьці заграчнічнай прэсы і каша завараная н е п а д п і с а н ь н е м моцна сказалася па цане польскіх грошаў, якія ў працягу некалькіх дзён пачалі шыбка танець, і разам з тым паднімацца ў цане ўсе тавары.

Праўда, даручэньне п. Панікоўскаму фармаваць новы габінет, крыху паўстрымала упадак польскай маркі, але ня так скора вернецца яна зноў да раўнавагі, а тыя страты, якія прынясло патаненьне польскіх грошаў, вярнуць не так лёгка.

І хто ж вінавайца гэтае справы, хто тыя, што не хацелі падпісаць акту? ці гэта ворагі Польскага народу, ці гэта толькі людзі, якія ня ведаюць, што робяць?

Трудна заглядаць у душу чалавека, трудна ведаць, што кіруе тым ці іншым чынам яго. Мы павінны толькі сказаць, што тыя, хто гэтулькі крыўды ужо цяпер зрабілі Рэчпаспалітай Польскай, піхаючы яе на справу, выклікаючую пратэст вялікіх дзяржаваў Эўропы і падрываючую фінансавае становішча Польшчы, гэта тыя дабрадзеі,

якія прайшлі у Віленскі сойм па сьпісках Польскага цэнтральнага выбарчага камітэту, што на увесь сьвет крычалі аб сваім патрыятызме, аб сваей польскасьці, хрысьцячы імем бальшавіка, ці здрадніка усіх іншых палякаў у нашым краі.

Гэта тыя, хто даказваў, што Польша гэта — яны, і апрача іх няма Польшы, няма палякаў.

Гэта тыя самыя людзі, якія вуснамі сваіх пісакаў, разносяць байкі па сьвеце, што беларусаў няма, і кіруючыся чыста зоолёгічным шовінізмам, бытцым іржа, раз'едаюць той моцны фундамэнт, будаваны сотнямі гадоў прошлага супольнага жыцьця, які мог-бы быць асноваю для далейшай дружнай творчай працы усіх народаў, заселяючых нашу супольную бацькаўшчыну.

З тыпамі гэтакіх патрыотаў мы знаёмы даўно, яшчэ з таго часу, як Віленшчына была пад панаваньнем Мікалаеўскай Расеі. Мы ведалі іх пад клічкай „истинно русских православных“ як яны сябе называлі, ці „чарнасоцянцаў“, як іх называлі іншыя людзі. Прадстаўнікам гэтых чарнасоценных патрыотаў быў у нас у Вільні пан Замыслоўскі. Ня думаю, каб з прыемнасьцю ўспамінялі яго Віленскія „істінна - польскія каталікі“.

Але-ж гэта іх зродная душа. Замыслоўскі так сама, у сваей палітыцы маскоўскага шовінізму, кіраваўся маральнасьцю готтэнтотаў, якая навучае: „калі ты з'ясі маю жонку, дык гэта грэх, а калі я з'ем тваю, дык граху няма“.

Справа Віленшчыны у апошняй фазе сваей, гэта адзін з этапаў барацьбы Польшы скаціннага эгоізму з Польшчай дэмакратычнай.

І беларускі народ пільна чакае яе разьвязкі.

К. В.

---

# „W świetle pewnej błyskawicy.“

Гэтую стацьцю напісау вядомы польскі літэратар Чеслау Янкоускі у „Gazecie Krajowej“. Дзеля паважнасьці яе зьместу і гарачасьці вокліку гэтага супраўднага сына нашага краю і польскага патрыота — мы, як умелі, ператлумачылі, праўдай і прыгожасьцю дышучыя радкі і падаем іх на старонках нашай газэты поўнасьцю.

Хай будуць гэтыя шчырыя пачуцьці і думкі тэй гранітнай сьцяной проці ворагаў нашых і ажыўляючай крыніцай для тых, што ідуць цярністым шляхам да нацыянальнага самовызваленьня.

(Рэд).

Радзіўся, больш як паўвеку таму, пад Радашкавічамі, так зросшыся з дробным загонам свайго бацькаўскага фальварку, як дубок, альбо хваінка на скраі нашых бароў і гаяў...

І як гэтыя бары ня змогуць іначай шумець над нашымі палямі і сенажацямі, вёскамі і засьценкамі, як толькі роднаю дзіўнаю мэлёдыяй нашай вясны і восені — так сумны лірызм яго душы, ідучы ў пары з ясным гумарам, нічым не замутнеўшай радасьці жыцьця, паплыў на нашыя сенажаці й нівы, на вёскі й засьценкі: самаю шчыр-крынічнаю моваю роднага краю.

Доўгі час пісаў, зараз-жа расхватваныя, папулярныя, сонечныя й жартоўныя апавяданьні — байкі; але ў апошнія часы замуціўся іх спакойная яснасьць, і пачаў прыпраўляць ён шчадрынаўскай сатырай свае, заўсёды прыгожыя, заўсёды поўныя шчырай поэзіі: байкі-нябайкі.

Вядомы быў з бязспорнай і безварунковай славы, як адзін з „падставовых“, калі можна так сказаць, пісьменьнікаў маладое беларускае літэратуры. А так безгранічна любіў свой родны край, *увесь*, як яго Бог стварыў, ад плывучага на небе воблака да найдрабнейшага жучка, што шмыргае на траве, — што ня было сярод „сваіх“ чалавека, які важыўся-б сумлевацца ў яго „патрыятызме,“ а сярод „чужых“ ня было такога, хто, знаючы яго асабіста, глыбока не шанаваў-бы й шчыра не пакахаў-бы яго.

Патрыотам быў—ў найшляхатнейшым разуменьні гэтага слова, якое выводзіцца ад паняцьця й слова *Patria*, а не з нацыянальнага эгоізму, скуль паходзяць нацыяналісты.

Ад „палітыкі“ трымаўся заўсёды здалёку, а „арыентацыю“ знаў толькі адну—гэта бязупынную тугу па роднай старонцы, скуль выгналі яго бальшавікі, адцятую ад Вільні лініяй Рыскага трактату. Горад яму дакучаў. Марыў толькі аб звароце на вёску „да сябе“, на каханыя палі. Мог-бы кінуцца ў палітычную кар'еру, лічучы на сваю пісьменьніцкую папулярнасьць. Не. Ен навет у апошнія часы, церпячы на цяжкую хваробу грудзей, захацеў лепей „бяду кляпаць“, абы быць вольным, як птушка, абы ня акунуцца ў омут інтрыг і сьвінства.

Толькі што-раз яму цяжэй было жыць.

І вось—дзён колькі таму—памёр. Тут у Вільні, сярод нас. Памёр дастойна; як і прыстала сапраўднаму літэратару: ў шпіталі.

А калі да труны Антона Лявіцкага прыбілі, века—зараз-жа згусьцілася над ёю атмосфэра, згасла сьвятляная яснасьць, Богу й людзям мілага, краёвага патрыятызму, і скрыгнулі, як ржавыя завесы сярэднявекавых вежаў, так званыя „нацыянальныя супярэчнасьці“.

Паміраe адзін з найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў, тут у Вільні, пад польскім бел-чырвоным сьцягам, які развеваецца з Замковай гары і на ўрадовых будынінах; уміраe ў тую часіну, калі Сойм Польскі ў Вільні абвяшчае злучэньне Віленскай зямлі з Польшчай, у часіну, калі Польская Рэчпаспалітая, даючы на гэта сваё *placet*, бярэ на сваю адказнасьць зароўна *долю* як і *становішча* гэнай зямлі „лясных узгоркаў і сенажацей зялёных“ — і ў такі момант, калі польскасьць тут у нас, тут у Вільні, павінна зьяць - праменіцца ўсей *велічу* культуры, павагі, шляхэтнасьці, паступовасьці, высокасьці ідэалаў соцыяльных і нацыянальных, у момант, калі польскасьць тут павінна мець, няўпынна-вабячы да яе ўсю тутэйшую люднасьць, чар магутнасьці й справядлівасьці—вось тагды-то нацыянальная беларуская меншасьць, унікаючы, як агню, польскасьці, адносіць цела свайго дастойнага брата, як-бы пад крыльля іншай нацыянальнай меншасьці й складае іх на катафалку... можа ў сьв. Якуба, можа ў Дамініканаў, можа ў Катэдры? Не. У самым скромным, самым непрыглядным віленскім касьцёлку сьв. Мікалая—ў літвіноў.

Жалобная абвестка аб сьмерці сьв. пам. Лявіцкага (шырака-вядомага сярод беларускага на-

роду пад псэўдонімам Ядвігін Ш.) паказалася ў аднэй адзінай віленскай часопісі... ў расейскай („Віленская Рѣчь"). Навет слова ўспаміну ў хроніцы ня было ані ў „Gazecie Wileńskiej", а ні ў „Rzeczpospolitej." Што ім—Гэкуба! Яны, бач, „ад" палітыкі, а палітыка, як ведама, залежыць ад спрытна-выдуманых формул,-адчыненых партыйным ключом, які аднак-жа, на жаль, ня ёсьць ключом да людзкіх сэрцаў, ані ключом да „Сэзаму" магутнасьці й славы.

* * *

Скажуць, мне, выдымаючы губы вышай носу: „Ат, вялікая рэч! дрэбязь!"

Не. Ня—дрэбязь. Гэта блеск выпадку, які высьвятляе ўсю сытуацыю—і фатальную сытуацыю.

Калі дайшло да таго, што мы палякі, ня хочам знаць, што дзеецца ў „нацыянальных меншасьцях," што акружаюць нас безпасрэдна, калі гэныя „нацыянальныя меньшасьці" замест каб імкнуць да нас, гарнуцца да нас, шукаць у нас апоры й абароны, замест таго, каб надзеяцца на нас у кожным выпадку, бачыць у нас найпрыхільнейшых і безстаронных насіцеляў справядлівасьці, свабоды, роўнасьці грамадзянскіх правоў,—глядзяць на нас, калі не як на ворагаў, дык крыва і з недавер'ям, як на людзей *чужых*, як на людзей з пяк льным прынцыпам: „Хай ненавідзяць, абы баяліся!"—дык гэта надта дрэнна.

Калі гэтыя „нацыянальныя меншасьці" пры першым здарэньні гуртуюцца, падаюць сабе рукі і твораць цесны блёк, калі ня выразна антыпольскі, дык бязумоўна такі, які гатовы ў кожны момант разарваць абрус супольнага жыцьця між сабою й намі,—дык такая сытуацыя з'ўляецца ўжо найгоршаю.

Гэта значыць, што занятыя тварэньнем „вялікай" агульна-польскай палітыкі... над Віслай, мы ня ўмеем сьцярагчы і ўзмацаваць нашага палітычнага становішча—над Вільлёй.

А што важнейшае? Хай вырашыць, барані Божа, ня большасьць паслоў, але меншасьць! *Les sots depuis Adam sont en majoryte*—сказаў, а лепей кажучы, паўтарыў за сьветачамі людзкасьці—Дэлявінь.

І яшчэ чую надта модную думку: Хай—кажуць-- *яны* йдуць да нас; чаму-ж канечне *мы* першыя маем чыніць усялякія „авансы"? Адказваю: Палітыка не з'ўляецца абменам камплімэнтаў і паклонаў паводля найвытварнейшага цэрэмоніялу. Палітыка—гэта інтэрас. Мы павінны, тут у краі, стацца для кожнай „меньшасьці" проста *патрэбнымі.* Выразна патрэбнымі! Тагды іх уласны *інтэрас* злучыць гэныя „меншасьці" з намі цясьней і мацней—як найлепшыя формулы найкарысьней-зробленых намі трактатаў.

У палітыцы няма сакрамэнтаў, абдзеленых асаблівым дарам Ласкі. Пэргамін навет найлепшы, на якім напісана умова, ня ёсьць стула, што зьвязвае на векі...

Бо пад каліграфіяй актаў, пад гукам пустых фраз, цячэ *жыцьце* бязлітаснае, стыхійнае, ў адвечнай эволюцыі—і яно, толькі яно, як вера, ў вядомай біблійнай прыпавесьці, зраўняе горы й засыпле даліны.

Чэслаў Янкоўскі.

# Лявоніха і Камарынская.

Усякі, каму здаралася быць ў хатцы беларускага сяляніна падчас якога—нябудзь сямейнага сьвята, напрыклад вясельля ці заручын, мог заўважыць, як музыканты узяўшы свае скрыпкі і цымбалы, пачынаюць граць вясёлы матыў Лявоніхі, а маладыя хлопцы, дзяўчата, мужчыны, кабеты, а нават, часам, і падвыпіўшыя старыкі, пабраўшыся ў бокі, пачынаюць, скакаць.

Але можа ня ўсякі заўважаў, што мотывы гэтага вясёлага беларускага танца не заўсёды падобны адзін да другога: адзін музыкант грае так, а другі крыху іначай. Пры гэтым, аднак, тэма мэлёдыі, яе разьмер і рытм заўсёды застаюцца адны і тыя самыя.

Такім парадкам мы маем шмат рожных варыянтаў аднаго і таго самага танца—Лявоніхі.

Гэтыя варыянты яшчэ чакаюць таго часу, калі яны будуць кім-небудзь запісаны й сабраны.

Усе яны больш-менш, а асабліва некатарыя з іх, падобны да Камарынскай — так сама народнага танцу, бадай ва ўсіх цяперашніх расейскіх нотных падручніках надрукованага пад назовю «Камарынская, расейскі народны танец».

Як ведама, матыў Камарынскай паслужыў расейскаму кампазытару Міхалу Глінцы тэмаю для яго знамянітай, цудоўнай па сваей надта пекнай аркестроўцы, сымфанічнай фантазіі пад назваю „Камарынская".

І вось тутака падымаецца пытаньне, як растлумачыць схожасьць матываў Лявоніхі і Камарынскай?

Дзеля таго, што будова мэлёдыі і яе разьмер паказваюць старажытнасьць гэтага танцу, можа зьявіцца дагадка, што Лявоніха і Камарынская разьвіліся самастойна, незалежна адна ад другой, ад якога-небудзь агульнага танца старажытных рускіх славян. Але гэтая дагадка ня можа мецьмейсца ўжо па той прычыне, што калі-б гэта было, то тагды мы мелі-б што-небудзь схожае, падобнае, і ў украінцаў, а тымчасам мы добра ведаем, што украінскія „гопакі", „козакі" і „трэпакі" нічога супольнага ні з Лявоніхаю, ні з Камарынскаю не маюць. Процїў гэтае дагадкі гаворыць яшчэ і тое, што, як мы ўбачым далей, Камарынская пачала распаўсюджвацца ў Велікаросіі толькі ў другой палове XIX веку, калі Лявоніха была распаўсюджана на Беларусі значна раней.

Вось гэтая апошняя акалічнасьць прымушае нас думаць, што мэлёдыя Камарынскай запазычана ад Лявоніхі.

Пацьвердажаньняў гэтае думкі можна знайсьці шмат.

Першым пацьверджаньнем можа быць вялікшая распаўсюджанасьць Лявоніхі на Беларусі, чым Камарынскай у Велікаросіі. Лявоніху граюць і скачуць у кожнай весцы на усім абшыры Беларусі, ад Гродзеншчыны да Смаленшчыны і ад Палесься да паўночных паветаў Вітэбшчыны. Беларуская Лявоніха мае акрэсьлены парадак танца; парадак гэты, праўда, патроху ужо забываецца. Камарынская-ж у Велікарасі значна меняй распаўсюджана. Есьць там такія мяйсцовасьці, гдзе зусім Камарынскай ня ведаюць. І нават там, гдзе Камарынскую знаюць, ахвот[illegible] граюць

і гуляюць якую нібудзь „Барыню“ ці інш., чым Камарынскую. У Велікаросіі Камарынская ня мае свайго акрэсьлянага парадку танца. Скачуць, як прыдзецца, больш „у прысядку“.

Далей, ёсьць аснова дагадвацца, што Камарынская да другой паловы XIX веку зусім не была вядома ў Велікаросіі; да таго часу ні ў адным расейскім зборніку народных песьняў Камарынскай мне ня здарвалася бачыць.

Камарынская пачала распаўсюджвацца ў Расеі толькі з другой паловы XIX веку, як раз з того часу, калі М. Глінка напісаў сваю фантазію „Камарынская“ (напісаў ён яе ў Варшаве ў 1848 г.). Пасьля гэтага, тэму „Камарынскай“ пачалі друкаваць ва ўсіх расейскіх нотных падручніках і яна пачала патроху распаўсюджвацца ў Велікаросіі. Што гэта так, а не інакай, можа быць довадам тое, што ў Велікаросіі няма рожных варыянтаў Камарынскай, і там, гдзе яе граюць, граюць тэму „Камарынскай“ М. Глінкі.

Цяпер можа паўстаць пытаньне: скуль-жа ўзяў гэтую тэму М. Глінка?

Гэта стане зусім зразумелым, калі мы ўспомнім, што Глінка нарадзіўся і вырас у ўсходняй частцы Беларусі—ў сяле Новаспаскім, Ельнінскага павету, Смаленскай губ. Там ён правёў свае дзіцячыя годы, там-жа ў яго прабудзілася любоў да народнай музыкі і там-жа ён, жывучы сярод народу, першы раз пачуў тую мэлёдыю, якую ён потым скарыстаў, як тэму для сваей „Камарынскай“.

Такім парадкам, мы бачым, што мэлёдыя Камарынскай ёсьць беларуская народная мэлёдыя, гэта—адзін з варыянтаў Лявоніхі.

Што датычыць самой назвы „Камарынская“, то гэтае слова атрымана ад тэксту аб „камарынскім мужыку“, але трэба адзначыць, што тэкст, наагул, нельга прыймаць у рахунак тагды, калі йдзе мова аб народнасьці мэлёдыі. І цяпер Лявоніха не заўсёды завецца Лявоніхаю: залежна ад тэксту й парадку танца яна завецца „Лявоніхаю“, «Крутухаю» і інш. Да мэлёдыі аднаго народу можа быць тэкст другога і наадварот. Так, напрыклад, на Беларусі ёсьць мэлёдыі, безумоўна, запазычаныя ад велікарусаў, але да гэтых мэлёдый ёсьць беларускі народны тэкст (гл. Бѣлорусскій Сборник Е. Р. Раманова, выпуск седьмой, Бѣлорусскія народныя мелодіи). Яшчэ адзін прыклад. Беларуска-украінская народня песьня „Журавель“, якую кампазытар Рымскі-Корсакоў скарыстаў для адной з сваіх сымфоній, у расейскіх народных нотных зборніках друкуецца, як расейская народная песьня з расейскім тэкстам (гл. «Сборник пѣсен для дѣтей», Н. Брянскага. СПБ. 1906).

У тым жа „Сборніку“ Н. Брянскаго ёсьць шмат іншых украінскіх мэлёдыяў з расейскім тэкстам, напрыклад: „Казак“, „Птичка Божія“, „Дон“, „Как пошёл то наш козел“.

Канчаючы гэты артыкул, хачу адзначыць, што я ня меў мэты зусім вырашыць пастаўленае пытаньне, што можна зрабіць толькі спэцыялісту насьля доўгага і стараннага баданьня рэчы; я толькі хацеў кінуць думку нашым вучоным этнографам, а асабліва асобам, якія спэцыяльна займаюцца беларускаю народнаю мэлёдыяй, каб яны гэтае пытаньне высьвятлілі.

Паўлюк Зарэцкі.

Апавяданьне **Мікіты Палагіна.**

# Таргі.

. . . Жывучы на вёсцы да 25 гадоў, я здолаў за гэты час перанясьці на сабе асабіста ўсе цягаты сялянскага жыцьця. Цяперака я жыву саўсім іншым жыцьцём, і тое жыцьцё маё ў вёсцы засталося далёка ззаду, як цяжарны і жудасны прывід. Шмат чаго я не памятаю з мінулага, але ніколі не забудуся „таргоў“, гэтага раздзіраючага душу вобраза, калі ў кожным панадворку неплацільшчыка прадавалі „з аўкцыёну“ яго апошнюю маемасьць.

Вось аб гэтым я й хачу расказаць.

---

Бацька мой быў працавіты й цьвярозы гаспадар. Ен жыў ня так бедна, як другія: ў яго была хата, хлявок, адрына—крытыя саломаю, быў конік, кароўка, чатыры аўцы, пару парасят і з дзесятак курэй.

Сям'я наша была сярэдняя: бацька, маці, трое дзяцей і старадаўняя бабулька—маці майго бацькі.

Хлеба нам заўсёды хапала да „новага, а ў добрыя ўраджайныя гады заставалася, нават, на выплату падаткаў. Адзежыну мы сяк так спраўлялі са свайго вырабу сукна і аўчынаў, дык і жылі сабе, ў параўнаньні з ўсімі, не саўсім бедна. Але, калі здараўся недарод,—а гэта бывала часта,—хлеба на продаж не хапала і плаціць падаткі ня было чым. Другіх крыніцаў заработку ня істнавала, і тагды вельмі туга прыходзілася майму бацьку.

Раз у нашай губэрні два гады ў чаргу выпаў недарод Першы год быў вельмі слабы ураджай‘ а другі, хаця збажына ўдалася нязгоршая, але напалову зсякло градам. Сяляне занядужалі і ў гэтыя гады вельмі слаба плацілі падаткі. За ўсімі была нядоімка яшчэ й з даўных гадоў, бо ўсё-жткі цяжка было спраўляцца акуратна з гэтымі падаткамі пры такой беднаце, а тутака яшчэ дабавілася нядоімка за гэтыя два гады, грошай выходзіла шмат, некалькі дзесяткаў тысяч рублёў. Вышэйшыя улады на гэта зьвярнулі сваю літасьцівую увагу й пачалі старацца з усіх сілаў, каб сьцягнуць гэтыя грошы з нясчасных сялян... Як з неба пасыпаліся ўсялякія „цыркуляры“ і прэдпісаньня аб энэргічным узысканьні нядоімак“. Пусьцілі ў ход галодныя арышты й розгі. А старшыня быў таксама срогі і спуску не даваў. Толькі мала памагала ўсё гэта—селяне плацілі дрэнна.

Зімою, зазвычай, назначалі збор падаткаў тры разы на тыдзень. Бывала дзесяцкі ходзіць ад аднае хаты да другой і крычыць:

— Сямён. на збор! Якуб, на збор!

Даходзіць чарга і да бацькі (за ім лічылася нядоімкі 46 рублёў), а ён ужо сядзіць прытаіўшыся ля сьцяны між вокнаў, з недаплеценым пасталом на каленях і шэпча мацеры: „Марыля, скажы, ў хаце няма,—ў кузьню пайшоў“.

— Сьпірыдон, на збор!—крычыць дзесяцкі, стукаючы палкаю па абшалеўцы вакна.

— Яго ў хаце няма, ў кузьню пайшоў,—адказвае маці.

— Ну, добра,—бурчыць дзесяцкі і адыходзіць.

Бацька сядае зноў ля вакна й пачынае далей рабіць сваю работу—пляце пасталы.

Але не заўсёды можна было абманаваць дзесяцкага і не з'яўляцца на зборку. Калі з тыдзень ня пойдзеш, дык стараста абавязкова прышле двох дзесяцкіх ды яшчэ соцкага, й тагды бяда, ня дай Божа!.. Сяляне ведалі гэта надта добра й рэдка да гэтага даходзіла. За звычай, кожны бедны сялянін, гэта знача неплацельшчык, раз у тыдзень, хоць і бяз грошай абавязкова з'яўляўся на зборную, так, для ачысткі сумленьня,.. Прыйдзе, пастаіць перад старастаю, паціскае шапку ў руках, стараста накрычыць на яго, сялянін нахіляецца, паскрабе патыліцу, абяцае дастаць колькі рублёў і прынесьці на другім тыдні. А ў чарговым разе—зноў тая самая гісторыя.

Гэтак было й з маім бацькай. Хадзіў ён, хадзіў на зборную бяз грошай, прыйшоў раз да хаты дый кажа мацеры:

— Заўтра, чуць сьвет, трэба йсьці ў Пясочнае пад арышт сядаці. (У сяле Пясочнае было валаснае праўленьне).—Вось і папера напісана,—паказаў ён.

А сам і не глядзіць на нікога, такі хмурны; ў горле ў яго хрыпіць нешта.

— Анціхрысты! Жывадзёры! Бога ў вас няма, вось што, — абурвалася маці, — Дзе-ж цяпер грошы возьмеш? Апошнюю скацінку, ці што, прадасі? Зусім зруйнавацца?! А пасьля жабраваць іісьці!.. О, хо-хо, горкая наша долячка!..

Бацька маўчаў.

— Ці на доўга цябе? — спачуваючы спыталася маці.

— На два дні без яды.

— Ах, Божа мой!.. Што-ж гэта будзе з табою?!.. Ды ты-ж саўсім змарнееш.

— Што-ж зробіш? А Пятрука Канцавога сячы будуць.

— Разбойнікі!. Каты!...—зласьліва сьцяўшы зубы шапнула маці.

Раніцай, калі мы яшчэ спалі—бацькі ўжо ня было. Ен пайшоў на адседку.

Гэтыя два дні маці была вельмі злая й часта чаплялася да нас без прычыны і біла. Як відаць, на душы ў яе было горка, а ў сэрцы кіпела помста і яна, міма сваей волі, скіроўвала ўсе гэта на нас.

Праз два дні бацька прыйшоў да хаты. Мы ўсе кінуліся да яго з радасьцю: тата прыйшоў! тата прыйшоў! Але бацька не заўважыў нашага радаснага спатканьня і як мяшок апусьціўся на лаву. Тутака толькі я заўважыў, як ён пахудзеў і пачарнеў, а вочы ўваліліся глыбока і няпрытомна пазіралі наўкруг.

Галодны арышт даў сябе пачуць.

Маці занепакоілася, наліла яму гарачай поліўкі, паставіла перад ім на стол і адрэзала хлеба. Мы пазіралі то на бацьку, то на маці, а пасьля агарнуў нас спуд і мы схаваліся самі ў сябе, бытцам тыя сьлімачкі ў свае скарлупіны і паглядалі цікавымі вочкамі. Маці так-сама маўчала. Яна турбавалася без патрэбы, бралася не за тое, што трэба. Нарэшце яна села за кудзелю й пачала прасьці, але работа ня спорылася ў яе руках.

Пасядзеўшы і адпачыўшы крыху, бацька ўстаў, перажагнаўся перад абразамі і зноў сеў. Адламаўшы кавалачак хлеба, ён асьцярожна ўзяў яго ў рот і прырыхтаваўся жаваць, але ня мог; твар яго скруціла сударга, ён выплюнуў хлеб у руку й кінуў у карыта.

— Што ў цябе—трывожна спытала маці.

— Паднябеньне баліць, есьці не магу,—паскардзіўся бацька.

— А ты гарачай поліўкі з'еш дык распарыш рот,—парадзіла маці.. А сама выпусьціла з рук верацяно, паклала рукі на коленкі і ціха заплакала.

Мне тагды было сем гадоў, але я зразумеў, хутчэй сваім дзіцячым сэрцам, як розумам, што тату й маму нехта несправядліва крыўдзіць, і мне так зрабілася балюча, што я ня вытрываў і пачаў раўці.

Прайшло тыдні са два. Бацька хадзіў на зборную ўжо са два разы ў тыдзень, але грошаў ўсе-ж ткі не насіў, бо скуль-жа бы ён мог іх узяць?

Аднаго разу прыйшоў ён са зборнай, выняў з кішаня зноў нейкую паперу й паказваючы яе мацяры, глухім прыдушаным голасам, сказаў:

— Вось і я прыждаў... Зноў у Пясочнае... Сячы будуць...

І пачырванеў яго бледны твар ад сораму і злосьці. Яму было, ўсе-ж ткі, сорамна перад другімі сялянамі, ды нават перад сваей жонкай, што яго будуць сячы розгамі. Праўда, гэта ня рэдка здаралася і з другімі, але розгі лічыліся ганьбаю для сяляніна. У сяляніне, так-сама як і ў другіх людзей, жыве пачуцьце чалавечага гонару, якому чамусьці розгамі пашану аддавалі „пастаўленыя Богам улады".

Пасьля „сечкі" селянін зазвычай з тыдзень і болей на вочы не паказваўся сваім суседзям. Ні з кім не хацеў спатыкацца.

Праўда, сяляне, кіруючыся пачуцьцем дэлікатнасьці (бо ў сялян так-сама яна ёсьць), не чапалі яго, а калі і здаралася спаткацца і пагаварыць, дык не дакраналіся балючай струны.

І вось бацька, раніцай, ледзь сьвет, зноў выбраўся ў Пясочнае, а перад абедам вярнуўся дамоў. Але як прыйшоў, дык ня сеў адразу на лаву, як тагды, пасьля арышту, а доўга і асьцярожна прырыхтоўваўся да гэтага, а калі сеў, дык скрыпнуў ад болі зубамі, і твар яго скрывілі конвульсіі.

— Ці моцна білі цябе?—жаласьліва спытала маці.

— Па закону належыцца дваццаць удараў, ну, а яны, ад вялікай шчырасьці, дадалі яшчэ столькі,—адказаў бацька.—Старшыня лічыў, а як дайшло да дваццаці, дык і кажа:—дадайце яшчэ з дзесяць, ды толькі гарачэйшых, каб смачней было.—Я крычу: Лександр Міронавіч, пашкадуйце!—Няма чаго шкадаваць—кажа,—гэта казённыя. Сыпце, сколькі ўлезе.

— Праклятыя!.. Зьвяры!...—застагнала, бытцам самой ёй балела—маці.

— Так... Сядзець нельга... Але і стаяць таксама. У-а! баліць!..

— А ты прымачы цёплаю вадою—параіла маці.

— Там і так ужо прымочвалі, салёнаю..,

Але гэтым ня скончыліся прасьледаваньні майго бацькі за неплату падаткаў. Яго яшчэ

колькі разоў выклікалі ў воласьць, як відаць на „сечку,“ але ён туды болей не хадзіў і ўвесь час хаваўся ад дзесяцкіх і соцкіх то ў ямах, то ў паграбе, ці ў адрыне ў саломе.

Нарэшце пачалі хадзіць чуткі аб „згонцы“.— Гэта сялянскую жывіну зганялі ў адно мейсца, дзе адбываліся таргі. З гэтага і пайшло слова „згонка.“

Слова „зонка“ прост глушыць селяніна сваім зьместам. Усяго яго абхаплівае жах і ён, як няпрытомны, пачынае мітусіцца, ня ведае, што яму рабіць. Усюды толькі і гутарка аб згонцы.

— Чуў, Піліп? У Раеўскай воласьці згонка!

— Чуў, учора ў Асмоліцкай была, ўсё абчысьцілі! Навет курэй прадавалі. Хведар нечага езьдзіў туды. дык кажа, стогн разглягаецца па ўсіх вёсках.

— Ах Божа наш! Вось кара!...

Згонка ўсё болей і болей зблівалася да нашай вёскі Бярозаўкі і абхопвала яе кругам, які з кожным днём сьціскаўся ўсё вужэй і вужэй. Сяляне са сваімі жонкамі рыхтавалі пляны, як захаваць сваю рухомую маемасьць—цялят, авечак, парасят і нават курэй.

Мае бацькі так-сама не драмалі. Яны ўзялі дзьве авечкі і спусьцілі іх у яму; паклалі ў мяшок двое парасят і закапалі іх у адрыне ўсалому.

Жонкі хадзілі да суседзяў і выкладвалі адны другім сваё агульнае гора.

Наша маці ў апошнія дні карміла нас малаком і прыгаварвала:

— Ешце, дзеткі, ешце... мо гэта апошні раз.. больш ня ўбачыце малачка... скора нашу карміцельку-кароўку прададуць.—А сама выцірае рукавом сарочкі свае заплаканыя вочы.

— А на што прададуць? на што?—пытаю я.

— Еш, еш сынок, ты яшчэ дурненькі, падрасьцеш—усё пазнаеш,—адказвала маці, гладзячы мяне па галаве.

— А я не дам,—храбраваўся я.

Маці ўсьміхнулася такой горкаю ўсьмешкай і кажа:

— Э-э, сынок, як жа-ж ты не дасі? Ты Богу дзякуй, што пазьней радзіўся, а то вось бабка расказвае, як у папярэднія часы яе на сабаку зьмянялі. Узялі яе ад бацькоў, так і не пабачыла яна іх болей, дый не пабачыцца ўжо цяпер...

— Тамака пабачуся!—шэпча бабка ўрачыста паказваючы пальцам у верх.

Мне зрабілася страшна і я прыціх.

Нарэшце згонка ўварвалася і ў нашу вёску.

Наехалі: станавы, старшыня, стараста, пісар, а з імі чалавек трох гандляроў кулакоў.

Надыйшоў страшны дзень. У кожнага селяніна цьвяком засела ў галаве пытаньне: жыць мне, ці ня жыць? Прададуць, ці зьлітуюцца?

Гэтым разам жывіны не зганялі ў адно мейсца, і таргі павінны былі адбыцца па панадворках.

Сяляне спаткалі станавога, калі той яшчэ пад'ежджаў да вёскі. Яны зьнялі парваныя шапкі, сталі на каленкі і загаласілі:

— Ваша высокае благародзьдзе!.. Айцец наш родны! Зьмілуйся! Ня руйнуй нас, пашкадуй, памілуй!

— Вось я вас памілую, гіпляў!—Закрычаў на іх станавы,—я вас пашкадую! Чаму падаткаў не плаціце?! А!?

— Родненькі, калі хлеба не маем, ня то, што грошы. Мы бы і рады плаціць, але што-ж тут парадзіш!?

— А вы бы болей працавалі, с... дзеці, тагды і падаткі былі-б заплачаны.

— Божа наш! Ціж мы гультуем? Мы дзень і ноч гатовы працаваць, што зробіш, калі недарод, ды недарод. У нас жываты сьцягнула ад голаду! Дзеткі мруць, як мухі!..—плакалі сяляне.— Зжалься, родненькі! Ты-ж нас жабракамі пусьціш! Грэх будзе!..

— Маўчаць! Розгамі засяку! Арыштую!

Сьціхлі сяляне, паўставалі з кален, ўсклалі шапкі і бязпомачна глянулі адзін на другога.

— Прыгатоў сьпіскі—зьвярнуўся станавы да пісара.—Хто першы?!

— Якім Зрэбны.

— Стараста, вядзі!

Стараста павёў станавога, а за ім ззаду пісар—купцы, і ўсе другія.

— Якім быў вельмі бедны. У яго было семяро дзяцей—шэсьць дзяўчынак і адзін хлопчык; самае старшая мела 16 гадоў. Калі ўвайшлі на яго панадворак абгароджаны схіляным плетням, з адным толькі хляўком для заморанай худой каніњкі і такой самай каровы,—ўсе дзеці сталі тут жа. Апрануты яны былі ў лахманы, твары іх былі бледна-зялёныя, худыя.

Зьбіўшыся ў адну гурбу, яны з жамах паглядалі на станавога. Сам Якім стаяў перад ім на коленках, бяз шапкі...

— Сколькі за ім нядоімкі?—спытаў станавы.

— 96 рублёў і 83 капейкі,— адказаў пісар.

— Маемасьці?

— Конь, карова і дзьве курыцы.

— Прадаецца карова.—абвешчае станавы.— 15 руб., хто болей?.. 20 руб., болей?..

— Ваша высокаблагародзьдзе! мейце Бога ў сэрцы!—Карова ўсю сямью корміць!.. — Завыў Якім.—Што я бяз яе параджу?.. У мяне стольки маленькіх дзетак... пашкадуйце хаця іх... У вас так-сама ёсьць дзеці...

— Чаго ты крычыш, дурань! Не перашкаджай!.. 22 рублі, хто болей?—рабіў далей сваю „работу“ станавы.

— Дзеткі з голаду памруць...—плакаў Якім.

— 23 рублі, хто болей...

Карову купіў за 23 р. гандляр Дземьянскі. Са двара ўсе вышлі. А Якім усё стаяў на каленках, схіліўшы голаву і сьціскаў сваю шапку. Па змораных, счарнеўшых худых шчаках, як два ручайкі цяклі сьлёзы і вецяр сярдзіта рваў яго валасы.

Падбегла да яго старшая дачка Ганулька, пацалавала ў голаву і, абхапіўшы бацькаву руку, стала памагаць яму ўстаці.

— Устань татачка, пойдзем у хату, не плач —мовіла яна, сама плачучы.

Якім абняў дачку, прытуліў да грудзей, пачаў цалаваць яе, прыгаварваючы:

— Дачушка мая, мілая! якія... мы... нешчасныя!..

Так сталі яны сярод двара абняўшыся, як вобраз дзікай нялюдзкай крыўды, з вачэй іх, быт-

цам з крыніц ручьі—ліліся сьлёзы, а вецер рваў іх валасы.

У хаці, як па нябошчыку галасіла раздзіраючым душу голасам жонка Якіма:

— Карміцелька ты наша!.. Ядыная ты наша... Ах Божанька лі... лі... літаасьцівы!..

А дзеткі, тым часам, абступілі гэтую „карміцельку" сваю, лашчылі яе і прыгаварвалі:

— Цябе забіраюць Красуля, ня ўбачымся болей, мілая, пакідаеш ты нас, дарагая...

Дзеці гладзілі яе рукою, цалавалі ў морду, карміли скарынкамі. „Красуля", бытцам разумела ўсё, што ёй казалі і, ў знак гэтага лізала ім рукі і адзежу, а пасьля, выцягнуўшы шыю, жаласна-жаласна мыкнула...

Гэдык было пасьля станавога ў кожным панадворку нядоімшчыка! Так разьвітвалася кожная сям'я са сваей жывёлай.

Прыйшла чарга і да майго бацькі. І ён станавіўся на коленкі і прасіў зьлітавацца...

— Прадаецца карова, дзьве авечкі і адрына на злом,—абвесьціў станавы таргоўцам.

Упаў бацька ў ногі, загаласіў як прадсьмертным голасам...

З агідаю на твары адпіхнуў станавы нагою майго бацьку.

— Адвалачэце яго з гэтуль,—крыкнуў ён злосна.

Ухапілі бацьку дзесяцкія і адцягнулі, як няжывога, ў куток панадворка. Таргі адбыліся без яго. Прадалі карову, авец і адрыну за 35 руб.

На заўтра гандляры—кулакі забралі са ўсей вёскі зрабаваную скацінку і пагналі ў мястэчка на прадаж.

А за імі йшлі жанкі і дзеці плакалі і галасілі на нейкай надзвычайнай, як хаўтурнай, працэсіі.

Плач гэты раздзіраў сэрца кожнага сялянiна-„мужыка," але яны былі бытцам спакойнымі і толькі кожны з іх хаваў ў сваіх грудзёх горкую крыўду і страшную помсту.

Пераклаў з расейскага вольным перакладам

**Язэп Пілiпаў.**

---

# Край голаду і збыткаў.

Ня трэба казаць таго, дзе знаходзіцца гэты край: ўсякі дагадаецца, што мова ідзе аб Саўдэпіі, ў якой разам зжываюцца цяпер голад, жабрацтва, зьнішчэньне, а з другога боку—спэкуляцыя, збытак і пышнае жыцьцё. Над Волгаю, а нават і ў хлебароднай Украіне страшны голад ўсё мацнее і мацнее. Людзі, не маючы чаго есьці, ўміраюць сотнямі, тысячамі і, як падлічваюць, за гэты год памрэ з голаду ня менш як 10мільёнаў чалавек.

Ангальчанін Робэртсон, які пабываў ў галодных вокругах Расеі, гаворыць, што ён 45 гадоў жыў ў Індыі, дзе даволі часта бываюць неўраджаі і голад, але такога няшчасьця, якое цяпер агарнула Расею, ён яшчэ ня бачыў ніколі. Ня маючы хлеба, людзі ядуць усё, што пападзецца: сушаны конскі гной, кошак, сабак, кару з дрэва, балотную траву.

Усё часьцей і часьцей даходзяць весткі аб выпадках людаедзтва. Уміраючыя з голаду, маткі жывяцца мясам сваіх памёршых з голаду ці ўмысьня забітых дзяцей.

Усе гэтыя людзі перш надзеяліся на помач ад „рабоча-селянскай" ўлады, але хутка пераканаліся, што на ніякую помач ад яе спадзевацца нельга. Потым сталі чакаць помачы з „заграніцы", але і то дарэмна. Цяпер яны з пакораю чакаюць сваей сьмерці, а некаторыя канчаюць жыцьцё самабойствам.

— А на ссыпных пунктах, элеватарах гніе збожа—„продналог", бо „савецкія гаспадары" ня могуць даць рады, каб гэты хлеб ня гніў, а быў даста ўлены галоднаму народу на Паволжжа.

Тымчасам у гарадох паадчынялі рэстараны, цукерні, кавярні. У тэатрах поўна, грае музыка. Публіка вяселіцца. Публіка—гэта новая „савецкая буржуазія", ці як іх там называюць—„совбуры". Усе яны хораша адзегыя. На новых „савецкіх дамах" можна ўбачыць старыя дарагія брыльянты і каштоўнасьці. На вуліцах раз'ежджаюць на „ліхачах". Сыплюць грашыма направа і налева. Што ім за дзела да таго, што там на Паволжжы людзі гінуць з голаду,

**К.**

---

# З Савецкай Беларусі.

## Хочуць утрактаваць сваім раем.

Заўчора я спаткаўся з адным знаёмым, які нажыўся ў бальшавіцкім „раі" і ледзь жывы дабраўся да нас у «пекла"... У кароткіх словах расказаў ён мне пра паступкі чырвоных дыктатараў. Выслухаўшы яго, мне зрабілася вельмі сумна, а разам з тым і дзіўна.

Камуністы, ці як ён іх называе, крывапіўцы—сваім умелым праўленьнем давялі нашых братоў ды бацькоў чуць не да таго, што і ў Паволжжы. Налог за налогам, абоз за абозам! Непасьпееў гаспадар адвязьці збожжа, глядзіш—трэба вязьці дровы ці што іншае. Дык няма калі й брацца за гаспадарку, ды ў некаторых ужо і есьці няма чаго, а вясна яшчэ далёка — дый налогі ня кончаны.

Народу да таго абрыдла гэтае „райскае жыцьцё", што ён гатоў ісьці хоць у агонь, але каб як збавіцца ад яго, і каб хаця маленькая іскра ў гэты антыбальшавіцкі порах, дык бы ўся гнілая будыніна камунізму пайшла-бы з ветрам...

Але вельмі мяне зьдзівіла тое, што навет самі камуністы гэта ўсё відзяць і знаюць, да чаго яны давялі сваю старонку, і навет ня скрываюць таго, што скора наступіць канец іхняга панаваньня, што сягоньня ці заўтра гэты мучальнік-народ скіне з сябе кайданы чужацкай няволі. Цікава, што тыя камуністы, якія здаволіліся сваім раем і зразумеўшы, што іх рай — горш уселякага пекла, хочуць другіх утрактаваць сваім раем і выклікаць сусьветны камуністычны пераварот. Але, я думаю скарэй яны перавернуцца да гары нагамі, пакуль знойдуць другіх такіх дурняў, як у Расеі.

Марка.

## Школьная Справа ў Савецкай Беларусі.

(Ад уласнага кар.).

Па афіцыяльных вестках, у Менскім павеце, істнуе толькі пяць беларускіх пачаткавых школ, у каторых выкладаньне навук вядзецца па беларуску, а ў рэшце школаў, якія там на паперы лічацца беларускімі, навука вядзецца па расейску. Залежыць гэта ад таго, што шмат народных вучыцялёў—зьяўляюцца палюбоўнікамі расейскай культуры. Яны, не зьвяртаюць ніякай увагі на тое, што праслухалі курсы беларусазнаўства і маюць дакумэнты аб назначэньні іх, як беларускіх вучыцялёў. Так сабе толькі вісяць таблiцы на ганках школ з надпісамі па беларуску У самай школе беларускіх дзетак кормяць—калечаць маскоўшчынаю. Загады Аддзелу Асьветы для іх ня істнуюць, знаць іх ня хочуць. А ўсё гэта таму, што ў Менскім павеце сваіх вучыцялёў вельмі мала, а больш прысылаюцца з абрусеўшых беларускіх мяйсцовасьцяў. Пад-час, у беларускай школе можна спаткаць і Менскую жыдовачку, каторая нізашто, ня толькі вучыць па беларуску, але і гаварыць ня ўмее і ня хоча. Бываюць здарэньні, што сяляне гоняць вон такіх вучыцялёў, а тады, гэтых сялян, абвешчаюць контрэвалюцыянэрамі і караюць рэквізыцыямі. Такім чынам, справа з беларускімі школамі ў Менскім павеце стаіць вельмі дрэнна.

У самым Менску крыху іначай; праходзячы па вуліцах, адразу кідаецца ў вочы беларускае: таблiцы амаль усе напісаны пабеларуску, розныя абвесткі так сама, ды і школ шмат.

Але вось сумная справа: Менск страціў, ды ня толькі Менск, а і ўся Беларусь страціла слаўны хор Тэраўскага, каторы ў свой час карыстаўся вялікаю папулярнасьцю. Бальшавіцкія камісары абвінавацілі Тэраўскага ў зносінах з-за граніцаю і пасадзілі яго ў вастрог, дзе ён і звар'яцеў. Так што, хоць ён і застаўся жыць, але радасьці мала, хор яго, які складаўся з 64-ох асоб, без такога паважнага кіраўніка, распаўся.

У другіх паветах Меншчыны, як напрыклад: ў Ігуменскім, Бабруйскім і Слуцкім, справа з пачаткавымі школамі пастаўлена інакш, асабліва ў Слуцкім павеце, дзе з 180 школ ёсьць 120 беларускіх. Навет пад самым Слуцкам, у Слуцкай воласьці, ў каторай ў 1920 гаду была толькі адна беларуская школа і 14 расейскіх — цяпер ужо няма ні воднай расейскай, а ўсе беларускія.

Дзіўна тое, што і Лучнікоўская 2-клясовая школа стала беларускаю, ў каторай ужо гадоў 20 сядзеў вучыцель Ю. Пражога, заядлы маскаль, які нікалі і слухаць не хацеў аб нейкай Беларусі, а цяпер, на старасьці, шчыра ўзяўся вучыць пабеларуску.

У самым Слуцку, ва ўсіх сярэдніх школах выкладаецца беларуская мова. Ходзяць чуткі, што гімназія Соколова з будучага году будзе беларускай, бо вучні гімназіі вядуць за гэта барацьбу з быўшым яе дырэктарам Сакаловым, каторы яшчэ і цяпер трымаецца за маскоўшчыну, як п'яны за плот.

Я. В.

# Палітычныя весткі.

## Справа Віленшчыны і ўрадовы крызыс у Польшчы.

Пасьля таго, як Віленскі Сойм ухваліў злучэньне Віленчыны з Польшчаю, у Варшаву была выслана дэлегацыя ў ліку 20 чалавек, якой было даручана падпісаць фармальны акт з Польскім урадам.

Палова дэлегатаў адмовілася падпісаць акт злучэньня, які быў запрапанованы польскім урадам. З гэтай прычыны кабінэт міністраў на чале з п. Панікоўскім падаўся ў адстаўку. Пасьля таго, як выявілася немагчымасьць стварыць новы кабінэт, які меў бы за сабою большасьць паслоў варшаўскага сойму,—новы кабінэт даручана стварыць таму самаму п. Панікоўскаму. У рэзультаце створаны новы кабінэт, у які ўвайшлі большасьць старых міністраў і толькі тры новых: міністар унутраных спраў інж. Ант. Каменскі, міністр прамысловасьці і гандлю д-р Язэп Рачынскі і міністар жалезных дарог інж. Людвіг Загорны-Марыноўскі. У зьвязку з ліквідацыяй урадовага крызысу, думаюць, што непаразуменьне з падпісаньнем акту аб далучэньні Віленшчыны будзе хутка вырашана такім парадкам: альбо на акце падпішуцца яшчэ два-тры дэлегаты, і акт будзе мець праўную моц, альбо ўся справа будзе перададзена на вырашэньне Варшаўскага Сойму; да новага крызысу, трэба спадзевацца ня дойдзе.

## Фінансавая конфэрэнцыя.

У Парыжы адбываецца цяпер конфэнцыя міністраў фінансаў.

## Аўтаномія Прыкарпацкай Русі.

„Prager Tageblatta" паведамляе, што кіраўнікі палітычных партыяў Прыкарпацкай Русі запрошаны ў Прагу (Чэхія) на 17 сакавіка г. г. для перагавораў у справе аўтаноміі для Прыкарпацкай Русі.

## Аб конфэрэнцыі у Генуі.

✦ Паўночныя Злучаныя Штаты Амэрыкі адмовіліся ад удзелу у конфэрэнцыі.

✦ З Коўні паведамляюць, што саветы атрымалі паведамленьне аб тым, што Лёйд-Джордж і Пуанкарэ дайшлі да згоды ў справе варункаў дапушчэньня Расеі на гэнуэскую конфэрэнцыю. Расейскай дэлегацыі будзе прапанованы ультыматум: прызнаньне расейскіх даўгоў і разбраеньне арміі пад кантролем міжнароднай камісіі; установа вольных партоў па Балтыцкім і Чорным марах; прызнаньне Вэрсальскага трактату і падпарадкаваньне кантролю ўсяе расейска-германскай таргоўлі. Гэткая пастанова справы выклікала незадаваленьне сярод бальшавікоў. Пануе перакананьне, што бальшавікі ня прымуць такіх варункаў.

✦ Прадстаўнікі Ірляндыі прымуць удзел у конфэрэнцыі разам з прадстаўнікамі Даніі.

## Канфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаў.

У Варшаве адчыняна конфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаў.

## Уплыў польскага ўрадовага крызыса на Літву.

Міністэрскі крызыс, выклікaны віленскім пытаньнем, зрабіў у Коўні сэнсацыю. Літоўскі ўрад хоча дамагацца выкананьня сувальскага дагавору.

## Літва і Клайпэда.

Нямецкія газэты ў Клаўпэдзе паведамляюць ат концэтрацыі літоўскіх войскаў на граніцы Клайпэды.

## Барацьба Ірляндыі за незалежнасьць.

Ня гледзячы на атрымaную шырокую аўтаномію, барацьба за поўную незалежнасьць Ірляндыі ад Англіі не спыняецца. Паўстанцы Лімэрыку атрымалі падкрапленьне і хочуць стварыць новую Ірляндзкую незалежную дзяржаву. Ірляндзкі тымчасовы ўрад выслаў у Лімэрык свае войскі.

## Непарадкі ў Фіумэ.

Партыя фашыстаў (італьянская) і рэвалюцыйныя войскі занялі горад і ўтварылі новы рэвалюцыйны урад. Югаслаўская рада міністраў пастанавіла паслаць у Рым ноту пратэсту.

## Паўстаньня у Расеі.

У ваколіцах Адэсы пачалося новае паўстаньне проціў бальшавіцкай улады.

У Тамбоўскай губэрніі пачаўся проціўбальшавіцкі рух. Атрады Антонава стараюцца захапіць жалезнадарожныя станцыі.

## Швэцыя проціў прызнаньня Савецкай Расеі.

Швэцкі парлямэнт адкінуў прапазыцыю аб прызнаньні савецкага ўраду.

## Савецкая нота балтыцкім дзяржавам.

Фінляндыя, Эстонія і Латвія атрымалі ад савецкага ўраду аднолькавыя ноты з прычыны конфэрэнцыі балтыцкіх дзяржаў, якая адбываецца, цяпер у Варшаве. У ноце савецкі урад асьцярагае проці утварэньня ваенных конвэнцыяў з Польшчаю і выказвае сваю пэўнасьць ў тым, што адзінай гарантыяй разьвіцьця гэтых дзяржаў ёсьць мір і згода з савецкай Расеяй.

## Аўтаномія Аландзкіх выспаў.

Мяйсповы Сойм Аландзкіх выспаў адзінагалосна выказаўся за аўтаномію і пастанавіў зьвярнуцца з гэтым дамаганьнем да фінляндзкага ўраду.

# РОЖНЫЯ ВЕСТКІ.

## Абурэньне Амерыкі проціў балшавікоў.

З Вашынгтону паведамляюць, што там пануе абурэньне проціў бальшавіцкай улады за тое, што яна выкарыстала на бальшавіцкую прапаганду грошы, якія былі адпушчаны на галадуючых. Дзеля гэтага Гардынг, з многімі сэнатарамі, выйшлі з камітэту помачы галадуючым.

## Спадак цэн на брыльянты ў Расеі.

У Маскве значна спалі цэны на брыльянты. Гэты спадак цэн ставіцца у зьвязак з дэкрэтам аб канфіскацыі царкоўных і манастырскіх каштоўнасьцяў. Думаюць, што значная частка гэтых каштоўнасьцяў апыніцца на рынку.

## Разстрэл ваеннапалонных.

Рыжская латвійская газэта „Latois“ паведамляе, што Міжнародным Чырвоным Крыжам былі даставулены з Германіі ў Рыгу 120 ваеннапалонных, якія адтуль былі адпраўлены ў Савецкую Расею. У Себежы (Вітебшчына) 16 ваеннапалонных, якія раней належалі да арміі Савінкава і зьбіраліся вярнуцца ў Расею на аснове аб'яўленай бальшавікамі амністыі былі аддзеляны ад другіх ваеннапалонных і разстрэляны.

## Сьмерць Дорошэвіча.

У Петраградзе памёр расейскі пісьменнік Дорошэвіч, вядомы па сваім апісаньням сахалінскай катаргі і па фэльетонах у газэце „Русское Слово.“

## Савецкі тэрміновы ўзнос Польшчы.

У Варшаву з Масквы прыбыў чарговы 10-ці мільёнвы ўзнос золата і каштоўных каменьняў.

## Дэлегацыя каапэратываў ў Маскве.

У Маскву прыехала дэлегацыя заграпічных каапэратываў. У склад дэлегацыі ўваходзяць прадстаўнікі англійскіх, французскіх і голяндзкіх каапэратываў.

## Чума ў Расеі.

У районе Мікалаева зарэгістраваны 23 выпадкі чумы

## Бандытызм ў Маскве.

У Маскве бандыты ўсё часьцей робяць напады на савецкія магазыны і ўстановы.

## Голад у Расеі.

У англійскай радзе міністраў разгледжваецца прапазыцыя аб ассыгнаваньні 250 тысяч фунтоў стэрлінгаў на помач галадаючым у Расеі.

Лік галадаючых у Расеі ўзрос да 30 мільёнаў. Найболей страшнае становішча ў Адэскім і Мелітопальскім паветах.

У зьвязку з пастановамі французскага ўраду ў справе помачы галадаючым, з Марселю выйшаў першы параход да Адэсы з 4.500 тоннамі зерна.

Чэмбэрлэн заявіў ў палаце вобшчын, што ўрад ня будзе прапанаваць новых крэдытаў на карысьць галадуючых у Расеі, бо Саветы трацяць грошы на меняй патрэбныя рэчы.

У Хвалынску на базары галадуючыя забілі камісара міліцыі Грубіна.

Да галодных вокругоў належыць цяпер Туркестан.

Савецкія газэты пішуць, што каля Волгі і Каспійскага мора людаедзтва ўсё пашыраецца. Дапамога галадуючым пагоршваецца дрэнным становішчам жалезных дарог.

### Забастоўка ў Мюнхені.

У Мюнхені (Германія) забаставалі работнікі мэталісты.

### Жыдоўскі пагром ў Кіеве.

10-га лютага г. г. у Кіеве быў жыдоўскі пагром. Забіта 7, ранена 24.

---

# ВЕСТКІ з КРАЮ.

### М-ка Івенец.

У нашай гміне надта хварэюць на ўсялякія пошасьці, й тутэйшыя жыхары ў вялікім пярэпудзе: яшчэ на дварэ маразы стаяць, а ўжо народ гэтак хварэе,—а што-ж будзе, як пацяплее? А каб хварэць у цяперашні час—патрэба вялікую кішаню мець...

Дарагоўля ў крамах расьце, бо, кажуць, ў гарадох усё падаражэла на 30 прац., дый падатак з данінай трэба выбраць з пакупшчыка.

Але, як нам здаецца, дык тут і ўрад, мусі, вінават.

Вось хапя-бы возьмем гэта дзеля прымеру:

З установай польскай улады, сажань дроў у нас каштаваў 500 марак. Урад узяў пад сваю апеку лясы былшага памешчыка Дарагунцава, Кулёўскі лес і ксяндзоўскі і адразу назначыў таксу па 2500 марак за сажань, тым часам, як граф Тышкевіч прадаваў па 800 марак. Цяпер-жа, як на графа налажылі вялікі падатак і даніну, дык ён падняў цану да 3000 марак за сажань. А ў урадовым лесе зрабілі гэткі фокус: саўсім дроў ня прадаюць, бо, бачыце, калі падняць цану настолькі, наколькі яна была ўперад даражэйшаю за графскую, дык вышла-бы занадта, „wygórowana“. Дык яны й тут не спудлавалі: зрабілі нейкую „парцэляцыю“ лесу і будуць прадаваць участак лесу па 50.000 марак, ды яшчэ з таргоў. Дык калі пачатковая цана 50.000 марак, то да якое-ж дагоняць на таргох гандляры і спэкулянты?

А — Р — А.

**Залесье,** Ашмянскага пав.

Каля 10-11 сьнежня мінулага году ў нашым районе заарыштавалі некалькі чалавек па палітычным справам. Разумеецца між заарыштаваных знайшліся і такія, каторыя зусім а ні ў чым ня былі вінаваты і такіх хутка выпусьцілі з турмы. З такіх выпушчаных быў вучыцель Заскавічскай Беларускай школы п. Г. Вучыцель гэты вярнуўшыся ў сваю школу знайшоў там ужо польскага вучыцеля, спэцыяльна назначанага ў беларускую школу дла выкладаньня польскай мовы. Калі выпушчаны з турмы вучыцель Г. зьвярнуўся на гэтых днях да пана інспэктара ў Ашмяне з прозьбаю каб вярнулі яго на сваё мейсца—старшага вучыцеля вышэй - памянёнай школы, дык часова выпаўняючы абавязкі п. інспэктара па школьных справах на „Starostwo Oszmianskie“ сказаў яму: „Вы, паночку, назначаецеся цяпер у другую школу.“

На запытаньне вучыцеля, па якім прычынам такая перамена „ізванія“ старшага вучыцеля вялікай школы ды ў маленечкую вёску ў школку з нейкімі 20-30 вучнямі. Пан інспэктар сказаў на гэта: „Вы паночку, служылі вучыцелем пры Расійскім Урадзе і дысцыпліну гэтага Ураду добра ведаеце, дык у нас так сама такая дысцыпліна і калі Вас перамяшчаюць у другую школу, дык павінны маўчкі падчыняцца гэнаму распараджэньню“.

Як мне добра ведама вучыцель Г. ў прошлую восень дужа многа палажыў працы на адбудову Засковічскай школы; школа гэная пасьля войнаў была напалову разваленая — без вакон, без дзьвярэй, без пячэй і, толькі дзякуючы ўласнай яго ініцыатыве і энэргіі—школа прыняла належачы выгляд.

Дык-жа, бачыце, тэкі шчыры працоўнік беларускай асьветы і культуры не спадабаўся пану інструктару па школьным справам.

Мейсцовыя сяляне страшэнна абураны такім перамяшчэньнем іхняга вучыцеля.

Можа гэная заметка дойдзе да вышэйшых Польскіх уладаў і гэтая справа будзе высвятлена і вырашана, як таго вымагае справядлівасьць.

Амэлінскі.

### За споведзь трэба плаціць жытам.

Ашмяны Вілен. губ.

Наш Ашмянскі дзекан кс. Гурскі завёў новую моду: ня прымае да споведзі тых людзей, якія ня прыносяць жыта, якое дзекан зьбірае на духоўную сэмінарыю.

Народ не здаволены гэтай новай модай.

N. N

### Адбіраюць праданую зямлю.

Граўжынская гм. Ашмкнск, пав.

Нашы сяляне пачас вайны і ў апошнія часы, куплялі ў памешчыкаў зямлю. Рабілі запрадажную, плацілі грошы і чакалі купчай. Але іншыя памешчыкі, паміж імі і п. Х. Граўжынскай гміны адгаварываючыся рознымі прычынамі, адцягваў сьпісаньне купчай, ажно цяпер гавора, каб тыя, хто хоча зрабіць купчую даплапілі да тэй цаны, якая цяперака істнуе на зямлю, а не, дык ён зьверне ім грошы і няхай ідуць вон. А людзі праз некалькі гадоў здалелі ўжо ўмацавацца па

своей новай гаспадарцы, дык як туткі кідаць? Вось папаўшыся пану Х. у рукі, людзі вызбываюцца жывёлы, прыплачываюць колькі п. Х. хоча, бо няма куды падзецца.

N. N.

# Беларускае жыцьцё.

## Новыя арышты беларусаў.

У Горадні арыштавана каля 35 беларускіх дзеячоў, якіх адправілі у Беласток. Між іншымі арыштаваны: Якавюк Сымон, Трыпуза Адам, А. Парук, П. Матусэвіч, М. Галавач, В. Кожанаў, В. Мультан, П. Тамашчык, Баран, Федарук, Кухарчук, М. Якімовіч, Кулікоўскі, Злоцкі, Улючык, Мінгіновіч, Рубаніха, Лапыр, Шуляк і інш.

Як паведамляе „Robotnik“ родныя нігдзе ня могуць давецца, куды трэба зьвярнуцца ў справе гэтых арыштаў, бо мейсцовыя ўлады, як старэства і паліцыя, адказваюць, што нічога ня ведаюць.

Па апошнім весткам, частка арыштаваных ужо выпушчана,

## Выдамьне беларускіх кніг у Савецкай Беларусі.

Згодна пастановы III-га Усебеларускага Зьезду Саветаў выдавецтва кніжак і школьных падручнікаў на беларускай мове было прызнана „ударным“ (перша-чарговым) Народны Камісарыят Асьветы ужо купіў да 20 рукапісаў і каля 6000 пудоў паперы. У бліжэйшым часе кніжкі пачнуць друкавацца.

(„Б. З.“)

## Беларусы ў Кракаве.

Вучыцялі-беларусы, паехаўшыя ў Кракаў на польскія курсы, ужо арганізавалі музыкальна-драматычны гурток. У хоры маюць 63 асобы. Ладзяць вялікі беларускі вечар, які дужа зацікавіў жыхароў Кракава.

(„Б. З.“).

## Літэратурная Раніца

У памяць памёршага беларускага пісьменьніка Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.) Навагрудзкая беларуская гімназія рыхтуе пастанову літэратурнай раніцы.

# Цікавыя гісторыі.

## Ня лёгка схавацца.

Амэрыканскія газэты многа пішуць аб сэнсацыйным шлюбе нейкага п. Анастаса Андрэевіча Вансяцкага, сына абрусеўшага польскага рэнэгата. Гэты п. Вансяцкі, адбыўшы шмат ваенных кампаній проці бальшавікоў, а потым, пасьля рожных здарэньняў і падарожжаў, неспадзеўкі апыніўся ў Амэрыцы, як рабочы ў прадпрыемствах Балдвіна ў Філадэльфіі. Цяпер ён ажаніўся з нейкаю п. Стэфэнс, разводкаю, маючаю 40 мільёнаў даляраў, але адначасна 45 гадоў, падчас калі п. Вансяцкі мае ледзь—23 гады.

Шлюб адбыўся ў Нью-Іорку тайна, каб унікнуць разгалосу, і пасьля шлюбу маладыя адразу безсьледна прапалі. Амэрыканскія газэты старанна заняліся маладою параю і пастанавілі ня спускаць яе з вачэй у часе медовага месяцу, так што ад дня шлюбу пачалася фармальнае прасьледаваньне рэпарцёраў за маладымі! У канцы, маладым ня ўдаецца схавацца ад рэпарцёраў, нават на колькі гадзін, ня гледзячы на тое, што маладыя праз увесь час уцякалі ад рэпарцёраў, зьменяючы мейсца пабыту. Знайшлі іх у адным гліхім отэлю ў Канадзе, знайшлі іх у Філадэльфіі і гэтак далей. Амэрыканскія газэты поўны падробнасьцяў аб „медовым месяцы“ маладых, уключна да стэнаграфованых размоваў са звошчыкамі і прыслугаю.

## Тыднёвы календарык.

| Чысла | Дні | Праваслаўны САКАВІК | Чысла | Каталіцкі САКАВІК | Сонца Усход г. м. | Сонца Захад г. м. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | Ср. | См. Феодота | 15 | Клеманса, Лёнгіна | 6 19 | 6 00 |
| 3 | Ч. | Сьв. Клеоніка | 16 | Абрагама пуст. | 6 15 | 6 01 |
| 4 | Пц. | Прп. Гарасіма | 17 | † Язэпа з Арым. | 6 13 | 6 03 |
| 5 | Сб. | М. Канона і Ісаўр. | 18 | Габрыэля Арх. | 6 11 | 6 05 |
| 6 | Н. | 3 Вял. Пост. сьв. 42 м. | 19 | 3 посту. Язэпа з. Н.М.Д. | 6 09 | 6 07 |
| 7 | Пн. | Васіля, Яфр. | 20 | Вольганга в. | 6 07 | 6 09 |
| 8 | А. | Прп. Феофілакта | 21 | Бэнэдыкта Оп. | 6 04 | 6 11 |

Рэдактар-выдавец Я. Бэкіш. Друкарня «ДРУК», Субач 2.